*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2020, № 12(58). Лістапад

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)



*Слонімскія футбалісты міжваеннага часу. На плоце стадыёна можна пабачыць калючы дрот*

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г., № 5(39), № 7(41), 2019 г., № 5(51), № 6(52), № 7(53), № 8(54), № 9(55), 11(57), 2020 г.*

## 1935

Футбольны сезон у Слоніме ў 1935 годзе пачаўся ў сярэдзіне траўня. Напярэдадні яго старту з ініцыятывы мясцовага камітэта дзяржаўнага ведамства па фізкультуры і вайсковай падрыхтоўцы (да яго адносіўся гарадскі стадыён) была арганізавана "міжкамандная камісія", у якую ўвайшлі прадстаўнікі клубаў, калектываў розных відаў спорту, але найперш футбола. Меркавалася, што яна дапаможа спыніць *"самаволю і выбрыкі спартсменаў на стадыёне падчас спаборніцтваў"*. Праўда, якім чынам збіраліся паўплываць на спартсменаў-хуліганаў, невядома. Яшчэ адзін вынік нарады — кожная каманда атрымала свой дзень і час трэніровак на гарадскім стадыёне, і мусіла трымацца гэтай дамоўленасці.[1]

Вядома, што на травень 1935-га ў горадзе існавалі пяць футбольных дружынаў — польскія WKS Słonim (ВКС Слонім) і Strzelec (Стралец), яўрэйскія Nordyja (Nordija, Нордыя), Makabi (Makkabi, Макабі) і Jutrznia (Ютжня, Зара).[2]

## Зламаная нага падхарунжага

Першы матч, пра які нам вядома, прайшоў ў канцы траўня. У ім гулялі армейцы (у прэсе пісалі, што гэта былі вайскоўцы 80-га палка) і "макабісты". WKS перамог з лікам 11:1. *"Такой гульні яшчэ не бачылі на стадыёне",* — пісаў карэспандэнт "Навагрудскага кур'ера". Makabi гуляў настолькі слаба, што за матч толькі некалькі разоў пераходзіў на палову поля саперніка, а адзіны гол забіў з пенальці. За "збіццём" яўрэйскай каманды назіралі толькі 500 заўзятараў, значна менш, чым у папярэднім сезоне. Судзіў паручнік Бардзілоўскі. Падчас матчу адбыўся непрыемны эпізод — вядомы гулец армейцаў, падхарунжы Клос (ці Клось) у сутыкненні з сапернікам зламаў нагу ніжэй калена. На насілках яго занеслі ў гарнізонны шпіталь. Гэты выпадак з футбалістам, вядомым сваімі джэнтльменскімі паводзінамі на полі, прынёс агульны прыгнечаны настрой заўзятарам.[3]

*Працяг на ст. 2*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст.1.*

### Былы гулец каманды Sparta

Разгром Makabi армейцамі не быў выпадковы. Праз некалькі дзён яўрэйскія футбалісты прайгралі камандзе Strzelec — 0:3. У справаздачы аўтар здзіўляўся: *“цяжка паверыць, што так упала форма гульцоў”* і на полі была *“вельмі слабая каманда”*. Makabi ў асноўным абараняўся. Спачатку на 8-й хвіліне з падачы Семянюка цэнтрфорвард Нізёлак адкрыў лік. Праз некалькі хвілін ён жа з перадачы Крыжака забівае зноў. Трэці гол быў забіты за дзве хвіліны да фінальнага свістка, калі суддзя пан Мінц прызначыў пенальці. На стадыёне было каля 1000 заўзятараў.[4]

Згадка Нізёлка сярод “стральцоў” пацвярджае нашу версію пра тое, што некаторыя гульцы былой каманды Sparta перайшлі ў новастворany Strzelec.[5] У 1933-м Нізёлкі згадваліся як гульцы паштовай каманды.[6]

І вось такі слабы Makabi зноў прадстаўляў Слонім у Баранавіцкай групе “клясы В”.[7] Але звестак пра гэтыя матчы няма.

### Высокая трава на полі

У пачатку чэрвеня адбыўся матч WKS — Nordyja. Армейцы ўпэўнена перамаглі *“маладую, але амбітную каманду”*— 6:0. Судзіў пан Шыцько. За матчам сачылі 600 заўзятараў. Як бачым, у 1935 годзе слонімцы з нейкай прычыны слаба наведвалі футбольныя паядынкі, у папярэднія сезоны на іх прыходзіла да 3 тысяч чалавек. У справаздачы адзначалася, што кіраўніцтва стадыёна не парупілася належным



чынам падрыхтаваць поле — высокая трава перашкаджала футбалістам падчас гульні. Нават лініі на полі былі кепска бачныя.[8]

У гэты ж час мусіў адбыцца матч Strzelec — Jutrznia[9], але яго вынік невядомы. Не было ў мясцовай прэсе і выніку паядынку Strzelec — Nordyja, прызначанага на суботу, 15 чэрвеня.[10]

### Разгром гасцей з Баранавічаў

У першай палове чэрвеня 1935-га ў нашым горадзе гулялі вайскоўцы, сустракаліся каманды WKS Słonim і 20 PAL Baranowicze. Госці прадстаўлялі 20 полк артылерыі лідскай у Баранавічах. На матч сабралося каля 1500 чалавек, судзіў пан Шыцько. Слонімцы мелі значную перавагу фізічную і тэхнічную, і перамаглі — 5:2. Тры галы WKS забіў з пенальці, адзін гол сабе госці забілі самі. “Навагрудскі кур’ер” пісаў, што WKS Słonim увайшла ў лік наймацнейшых каманд ваяводства.[11]

У пачатку ліпеня WKS, які ў прэсе прадстаўлялі “чэмпіёнам Слоніма”, згуляў з камандай Nordyja. Перавага армейцаў была значнай і яны выйгралі з лікам 4:0 (3:0). Пры гэтым маглі забіць з дзясятак галоў, але гулялі *“нібыта без ахвоты”*. Вынік іншага матчу Strzelec — Jutrznia — 7:1 (4:1). “Стральцы” прапусцілі гол на 12-й хвіліне, але ў далейшым ужо трымалі гульню пад сваім кантролем і ўчынілі сапернікам сапраўдны разгром.[12]

### “Надзея”, якой не было

У ліпені чакалася сустрэча каманд WKS і Strzelec. 12 ліпеня ў Слонім збіраўся прыехаць на “матч-рэванш” баранавіцкі Makabi.[13] На жаль, дакладна невядома, ці адбыліся гэтыя гульні. У мясцовай прэсе хапала памылак, анонсаў без далейшага паведамлення выніку. Кур’ёзны выпадак адбыўся ў пачатку жніўня. “Навагрудскі кур’ер”

— **Mecze piłki nożnej.** Zapowiedziane mecze piłki nożnej między drużynami „Strzelec" — Słonim, — „Nadzieja" — Słonim i „Makabi" — Nowogródek mają być rozegrane w dn. 3 i 4 bm. w Słonimie.

анансаваў футбольныя матчы ў Слоніме 3-4 жніўня і назваў трох іх удзельнікаў: Strzelec Słonim, Nadzieja Słonim і навагрудскі Makabi.[14] На наш погляд, у рэдакцыі ваяводскай газеты проста зрабілі памылку і замест Nordyja напісалі Nadzieja. Такім чынам новай каманды з прыгожай назвай летам 1935-га ў нашым горадзе не з’явілася.

## Паездкі ў Ваўкавыск і Навагрудак

Польскія спартыўныя выданні футболам у Слоніме не цікавіліся. Адзіны матч з удзелам слонімскай каманды, пра які напісаў варшаўскі “Спартыўны агляд”, прайшоў у Ваўкавыску ў канцы ліпеня. Nordyja абыграла мясцовы Makabi — 3:1. Усе галы былі забіты да перапынку.[15]

У жніўні слонімскі Strzelec з’ездзіў у Навагрудак, дзе згуляў з мясцовай Makabi. Паездка перанеслася на тыдзень і ў выніку яны гулялі ў нядзелю, 25 жніўня. У прысутнасці 500 заўзятараў слонімцы выйгралі з лікам 3:2. Са справаздачы даведваемся, што капітанам “стральцоў” быў Караль Нізёлак. Госці мелі невялікую перавагу. Стомленыя пасля пяці гадзін у дарозе, яны спачатку былі пасіўныя. А “макабісты” стварылі шмат момантаў, якія аднак не рэалізавалі. Strzelec адкрыў лік, але гаспадары поля яго зраўнялі. Тым не менш, на перапынак каманды пайшлі пры ліку 2:1 на карысць слонімцаў. На 10-й хвіліне другога тайма за гульню рукой суддзя, камісар паліцыі Павел Гэлер паставіў у браму гасцей пенальці, які быў рэалізаваны — 2:2. Аднак “стральцы” ўжо прыйшлі да сябе, узялі гульню пад кантроль і забілі трэці, пераможны гол. Тую паездку футбольная каманда выкарыстала для азнаямлення з Навагрудкам, наведала яна і Свіцязь.[16]

— **Mecz „Strzelca“.** W najbliższą niedzielę „Strzelec“ rozegra mecz piłki nożnej z drużyną albertyńską „Rezerwistów“ w Albertynie na boisku koło Fabryki Albertyńskiej. Dnia 6 września ma być rozegrany w Słonimie mecz piłki nożnej między „Strzelcem“ a „K. P. W. Ognisko“ — Baranowicze.

## Футбольны матч у Альбярціне

У нядзелю, 1 верасня, *“на полі каля Альбярцінскай фабрыкі”*[17] прайшоў футбольны матч паміж мясцовай камандай Rezerwisty і слонімскай дружынай Strzelec. Пра футбол у Альбярціне ў міжваенны час вядома мала. Першая згадка пра футбольную каманду з Альбярціна, якую нам удалося выявіць, адносіцца да 10 жніўня 1924 года. У той дзень WKS Słonim разграміў KS Albertyn з лікам 13:0.[18] Але калі ў пасёлку было поле, прыдатнае для гульні ў футбол і на ім быў згуляны матч, значыць, мясцовыя каманды былі. Але Rezerwisty найхутчэй з’яўляюцца камандай-аднадзёнкай, створанай менавіта для гульні з грознымі слонімцамі. Той жа “Навагрудскі кур’ер” пісаў, што “замест ансансаванай каманды “рэзэрвістаў” са “стральцамі” гуляла “зборная” *“дарослай моладзі са Слоніма”* і *“пару рэзэрвістаў з Альбярціна”.* Выданне прызнавала, што “пазычанне” футбалістаў — гэта звыклая з’ява. Але гульня гаспадароў поля *“была брутальная”* і *“пакінула сляды на целах стральцоў”.* Strzelec да такой гульні аказаўся негатовы і прайграў — 1:3. У справаздачы падкрэслілі, што гэта будзе навука для слонімскай каманды, што трэба сур’ёзна адносіцца да выбару саперніка.[19]

У пятніцу, 6 верасня, у Слоніме мусіў прайсці матч Strzelec — KPW Ognisko Baranowicze.[20] Ці адбыўся, невядома. Баранавіцкая каманда была моцная, яна гуляла ў “клясе А” Віленскай акругі.

## Дзіркі ў сетцы

Высвятляецца, што гарадскі стадыён у Слоніме быў занядбаны. Раней ужо згадвалася трава, якую маглі не скасіць перад матчам. У прэсе ёсць згадкі пра *“варварскія адносіны”* моладзі да стадыёна: некалькі драўляных брамак павырываныя і ляжалі на зямлі, драцяная сетка вакол стадыёна была *“павыгінаная”* і *“парваная”.*[21] Як вядома, стадыён агарадзілі *“прыгожай металічнай сеткай”* у 1933-м.[22] А да таго быў драўляны плот, зверху якога нацягнулі калючы дрот — каб на футбол хлопцы не спрабавалі патрапіць бясплатна. “Навагрудскі кур’ер” нават прапаноўваў прапускаць моладзь на спартыўныя імпрэзы бясплатна, бо пасля кожнага футбольнага матчу *“дзірак у сетцы дадаецца”.*[23]

## Хуліган Саламон Мінц

У верасні адбылася бойка падчас матчу паміж камандамі Nordyja і Jutrznia. Першая каманда выйграла — 2:0. Але матч скончыўся датэрмінова. Адказнасць усклалі на гульца Nordyji Саламона Мінца, які меў *“незвычайна буйны тэмперамент”* і *“недахоп выхавання”*, правакаваў сутычкі на полі.[24]

## “Стралец” перамагае армейцаў

12 кастрычніка гулялі Nordyja і Makabi, але журналісты забыліся паведаміць вынік матчу… У той жа публікацыі анансаваліся дзве апошнія гульні ў тым сезоне на гарадскім стадыёне: Strzelec — Makabi (19 кастрычніка, а 14-й гадзіне), WKS — Strzelec (20 кастрычніка, а 14-й). На апошнім паядынку

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 1-3*

абяцаўся аркестр.[25] А ў выніку пасля была справаздача толькі аднаго матчу.

Сезон закрывалі наймацнейшыя польскія каманды WKS і Strzelec. Армейцы, дагэтуль непераможныя ў Слоніме, сенсацыйна прайгралі — 1:3 (0:1). Перавага "стральцоў" была ад пачатку, але вайскоўцы добра абараняліся. Тым не менш, тры галы ўляцелі ў іх браму. У канцы другога тайма WKS перахапіў ініцыятыву, бо яго гульцы былі лепш падрыхтаваны фізічна, а сапернікі ўжо стаміліся. Удалося скараціць разрыў у ліку, але на большае проста не хапіла часу. Судзіў пан Яраш. На матчы было толькі 600 заўзятараў.[26] Магчыма, што значная частка заўзятараў мясцовых яўрэйскіх каманд не хадзіла на паядынкі, у якіх сустракаліся польскія дружыны. А яўрэяў-заўзятараў у Слоніме было шмат.

Відаць, у тым сезоне не разыгрывалася першынство Слоніма. Таму Strzelec можна лічыць неафіцыйным чэмпіёнам. І, дарэчы, зусім заслужана. Каманда правяла сезон вельмі актыўна.

### Пра лекарскую апеку

У жніўні 1935 года "Навагрудскі кур'ер" падымаў актуальную праблему *"лекарскай апекі над спартыўнымі спаборніцтвамі"*. Сцвярджалася, што прысутнасць медыкаў патрэбная і на спаборніцтвах, і на трэніроўках. Адзначалася, што *"ў Слоніме лекарская апека над спартсменамі мінімальная"*. Пры гэтым некаторыя клубы мелі сваіх лекараў (напрыклад, тыя ж вайскоўцы). Выданне прапаноўвала стварыць



"спартова-лекарскую" пляцоўку, якая б займалася пытаннямі аказання дапамогі спартсменам. Падкрэслівалася, што гэта не па сілах аднаму клубу, патрэбны *"толькі агульныя высілкі"*.[27] Аднак дыскусіі на гэтую тэму ў тым сезоне не атрымалася.

●Сяргей Ёрш

*[1] Kurjer Nowogródzki,1935, № 123, 7 траўня.*
*[2] Тамсама.*
*[3] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 145, 29 траўня.*
*[4] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 149, 2 чэрвеня.*
*[5] Слонімскі край, 2020, № 11(57). Кастрычнік. С. 12.*
*[6] Слонімскі край, 2020, № 9(55). Жнівень. С. 14.*
*[7] https://pl.wikipedia.org/wiki/Okr%C4%99gowe_rozgrywki_w_pi%C5%82ce_no%C5%BCnej_woj._wile%C5%84skiego_(1935)*
*[8] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 151, 4 чэрвеня.*
*[9] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 143, 27 траўня.*
*[10] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 161, 15 чэрвеня.*
*[11] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 159, 13 чэрвеня.*
*[12] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 186, 10 ліпеня.*
*[13] Тамсама.*
*[14] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 210, 3 жніўня.*
*[15] Przegląd Sportowy, 1935, № 79, 1 жніўня.*
*[16] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 222, 15 жніўня; 1935, № 232, 25 жніўня; 1935, № 235, 28 жніўня.*
*[17] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 239, 1 верасня.*
*[18] Слонімскі край, 2017, № 10(20). Кастрычнік. С. 9.*
*[19] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 243, 5 верасня.*
*[20] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 239, 1 верасня.*
*[21] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 250, 12 верасня.*
*[22] Слонімскі край, 2020, № 5(51). Красавік. С. 16.*
*[23] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 250, 12 верасня.*
*[24] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 256, 18 верасня.*
*[25] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 283, 15 кастрычніка.*
*[26] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 292, 24 кастрычніка.*
*[27] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 222, 15 жніўня.*

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках газеты “Гродненскія губернскія вѣдомости” ў 1905-м*

Працягваем перадрук самых цікавых і важных тэкстаў пра жыццё Слонімшчыны ў 1905 годзе паводле публікацый у газеце “Гродненскія губернскія вѣдомости” (у яе “афіцыйнай” і “неафіцыйнай” частках). У гэтай частцы змешчаны прозвішчы соцень нашых землякоў, якія мелі права выбіраць мясцовых дэпутатаў. Яны падзелены на тры часткі — хрысціян, яўрэяў і мусульман. Спіс важны, бо ў ім ёсць прозвішчы слонімцаў, якія на працягу стагоддзяў жылі ў нашым горадзе — Альперты, Аляшкевічы, Багдановічы, Багушэвічы, Байрашэўскія, Бранцэвічы, Будрэвічы, Барукі, Батурлі, Вайнштэйны, Варонкі, Грыневічы, Гурвічы, Клімкевічы, Куніцы, Лазінскія, Лянцкевічы, Навіцкія, Радзецкія, Расінскія, Рудзінскія, Сакалоўскія, Скаўронскія, Суднікі, Сяменікі, Юшкевічы, Шэгідзевічы, Шыманскія…



### СПІС асобаў, якія маюць права ўдзелу… ў выбарах гласных* Слонімскай гарадской думы на чатыры гады (1906 — 1909 гг.)

#### Дваран і мяшчан хрысціян

Мікалай Абрамовіч, нашчадкі Антона Міхайлава Бранцэвіча, нашчадкі Антаніны Іванаўны Будрэвіч, Антон Міхайлавіч Будрэвіч, нашчадкі Адама Восіпава Бранцэвіча, Сцяпан Сямёнаў Бараноўскі, Восіп Бранцэвіч**, Ванда Байко, Іван Вікенцьевіч Барук, Аляксандр Рыгоравіч Бернатовіч, Юрый Юр’еў Батурля, Марыя Вейс, Франц Вікенцьевіч Варонка, Антон Вікенцьеў Варонка, Іван Максімаў Вакулоўскі, Мікалай Пятровіч Веселага, Восіп Вайткевіч, Севярын Лукіянаў Гайдук, Аўгусцін Аўгусцінавіч Гаўсман, Адам Пятровіч Грыневіч, Эмілія Лаўрэнцьева Длужэўская, Вікенцій Іванавіч Дружылоўскі, Восіп Ільіч Дабравольскі, нашчадкі Франца Дабравольскага, губернскі сакратар Іван Іванавіч Жук, Левандоўскія — нашчадкі Жукоўскага, Тэрэзія Задзерноўская, Восіп Восіпаў Завістоўскі, нашчадкі Восіпа Зухоўскага, Марыя Захар’янская і Лізавета Карповіч, Антон Міхайлаў Іваноў, інтэндацкае ведамства, Пелагея Пятроўна і Ілля Іванавіч Івановы, нашчадкі Ёдэса, Вікенцій Андрэеў Касцюк, Андрэй Андрэеў Касцюк, Станіслаў Аўгусцінаў Каўшун, нашчадкі Карзона, нашчадкі Кумасава, Германія Антонаўна Калупайла, Антон Львовіч Каўшун, нашчадкі Канчэўскага, Войцэх Віктаравіч Клімкевіч, Генрых Калупайла, Вольга Каспяровіч і Качынская, Марыя Пятроўна Калінская, Павел Іванавіч Каган, Пётр Вікенцьевіч Карпейчык, Вікенцій Кузікоўскі, нашчадкі Антона Людвікава Каспяровіча, Антон Андрэеў Кулікоўскі, Маменцій Іванавіч Крапінскі, Вікенцій Пятроў Кец, Юрый Восіпаў Лянцкевіч, Міхаіл Антонаў Лукашэвіч, Франц Іваноў Лукашэвіч, Іван Міхайлаў Лабажэвіч, Вікенцій Ліпінскі, Дамінік*** Мацвееў Ласоўскі, Восіп Іванавіч Легун, нашчадкі Іллі Ласевіча, Станіслаў Ісідораў Махвіцз, нашчадкі Макатрэвіча, Юзэфа Сямёнава Мертэнс, Міністэрства фінансаў, Франц Мержэеўскі, Люцыян Густаваў Мешэдэр, Адам Малец, Іван Матусевіч, Міністэрства шляхоў зносін, Антон Младзянскі, нашчадкі Івана Навіцкага, Фама Мікалаеў Надзіеўскі, Аўгусцін Мікалаеў Надзіеўскі, Ядвіга і Ігнацій Навіцкія, нашчадкі Вікенція Аляшкевіча, Франц Міхайлаў Аляхновіч, Сямён Міхайлаў Пятроўскі, Франц Уладзіслававіч Пуслоўскі, Ілля Радзівонавіч Пятроў, Пётр Сямёнаў Пятровіч, Наталля і Аляксандр Палтарацкія, Антон Юльянаў Рудзінскі, Цэліна Восіпаўна Расінская, Пётр Станіслававіч Расінскі, Вікенцій Баніфацыевіч Раўба, Браніслаў Юльянаў Стэрнэт, Аляксандра Рыгораўна Смірноўская, Камілія Станіславаўна Стараселец, Антон Люцыянаў Сушчэвіч, Фелікс Восіпаў Сяменік, Міхаіл

# Рэвалюцыйны год

*Працяг, пачатак на ст. 5*

Іванавіч Савіч, Антон Вікенцьеў Скаўронскі, Іван Вікенцьеў Скаўронскі, Восіп Вікенцьеў Скаўронскі, Карл Антонаў Сакалоўскі, Франц Міхайлаў Сакалоўскі, Адам Восіпаў Суднік, Платон Аляксандравіч Скалабановіч, нашчадкі Пелагеі Свяжынскай, Валерыян Казіміравіч Стрэбейка, Іван Іванавіч Ушак, Казімір Іваноў Фармушэвіч, Станіслаў Іваноў Фармушэвіч, нашчадкі Фёдарава, Адам Фёдараў, Іпаліт Адамаў Цэдроўскі, Якаў Цупрык, Сафія і Юзэфа Віке[н]цьевы Чарнабеі, Яна Карлаўна Шанерт, Сафія Шэроцкая, Антон Аляксандравіч Шэрэцкі, Вікенцій Шведа, Аляксандр Аляксандравіч Шымански, Уладзімір Вікенцьеў Шых, Станіслаў Восіпаў Шымански, нашчадкі Карла Шмыгіна, нашчадкі Івана Юндзіла, Аляксандр Міхайлаў Юшкевіч, Міхаіл Вікенцьеў Юшкевіч, Ядвіга Казіміраўна Юдкоўская, Рыгор Фёдараў Ярашэвіч.

### Юдэйскага веравызнання

Шмуэль Лейзераў Альперт, Сендэр Лейзераў Альперт, Меер Альперт, Давід Аўсееў Айзін, Сроль Аронаў-Зелікаў Астрынскі, Шмуэль Гіршаў Аркін, Моўша Лейбаў Айнштэйн, Куніца і Авербух, Янкель Ёселеў Абрамоўскі, Ёсель-Іцка Еўноў Абрамовіч, Эля Моўшаў Авінавіцкі, нашчадкі Нахмона Ароншайна, Лейба Янкелеў, Альперштэйн, нашчадкі Анекштэйна, Янкель Донаў Белавус, нашчадкі Брыскіна, Шахна Лейбаў Быценскі, Абрам Беразоўскі, Шмуэль Ёвелеў Брыскін, Юдэль Беніямінаў Бузоўскі, Ёсель Давідаў Баркоўскі, Гірш Вульфаў Бурда, Ёсель Ківаў Брыль, Эля




Арановіч Бадылькес, Шмуэль Хаімаў Брыскін, Абрам Моўшаў Бабінскі, Моўша Бекенштэйн, Барух Юдэлеў Бернікер, Вольф Мендзелеў Берман, Ёсель Лейбаў Быценскі, Мардух Евелеў Быценскі, Абрам Ёнцелеў Берэнштэйн, Арон-Гірш Самуілаў Бранбург, Хаім Цевелеў Блашанскі, Зельман Мардухоў Бельскі, Хая Ліпаўна Брыль, Міхель Іцкаў Бакунавіцкі, Іцка і Рыўка Берманы, Арон Ёселеў Брыскін, Ківа Моўшаў Быценскі, Ёсель Абрамаў Бакунавіцкі, нашчадкі Нафтоля Борухава Бурштэйна, Шмуэль Аронаў Быценскі, Абрам-Лейзер Давідаў Быценскі, Шымель Шмуэлеў Берковіч, Моўша Ботман, Шмуэль Боруxаў Вульфавіч, Іцка Эліёў Вайнштэйн, Нахмон Ісаакаў Валоцін, Юдэль Хаімаў Вігдэровіч, Эля Іцкаў Вайнштэйн, Гдаля Вінаград, Эля Мардухоў Вайсінберг, Моўша Гілераў Вайнсберг, Іцка Хаімаў Віленчык, Мардух Іцкаў Віленчык, Мардух Вайнікаў-Ельскі, Шмуэль Эльяшаў Гажанскі, Абрам Зельманаў Гольдфарб, Сроэль Галін, Гірш Ашэр Гіндлер, Барух Сролеў Глушавіцкі, Юдэль Хаімаў Гіршовіч, Моўша Бейрахаў Гартбейн, нашчадкі Цалькі Гуральскага, Шалом Маркелеў Гурвіч, Эля Сролеў Глоўшавіцкі, Арыя Гольдберг, Абрам Гдалеў Гавурын, Арон Мардухоў Гавурын, Шлёма Хаімаў Гродзенчык, Рэйзля Шмуэлева і Вігдар Моўшаў Глоцэры, Левік Абрамаў Голандт, Давід-Лейб Гінзбург, Янкель Ківаў Гавурын, Гірш Нейсахаў Гараноўскі, Берка Сендэраў Гельман, Лейзер Моўшаў Грайвер, Ківа Эйзераў Граеўскі, Шая Шлёмаў Грынвальд, Абрам Пейсахаў Грынберг, Бенцыён Ёселеў Гінцбург, Лейзер Шахноў Гінцбург, Давід-Лейб Мардухоў Грабавецкі, Буня Элеўна Грынберг, Моўша-Эля Эфраімаў Дзярэчынскі, Ханон Мееpaў Дайч, Іцка і Жук Генаховы Дайхесы, Арон Лейбаў Дзярэчынскі, нашчадкі Вульфа Дварэцкага, Цодзік Сімхавіч Дубінбаўм, Нахім Дайч, Абрам Янкелеў Дзярэчынскі, Меер Іцкаў Дзенцельскі, Лейба Лейзераў Дзярэчынскі, Лейзер Юдзелеў Дварэцкі, Борух Абрамаў Даброўскі, Моўша Абрамаў Дзярэчынскі, Невах Вульфаў Дзярэчынскі, Борух Вульфаў Езерніцкі, Герцаль Нахімаў Ейрум, Абрам Езерніцкі, Сендэр Вульфаў Зельнянскі, Іцка Беніямінаў Закін, Шлёма Мардухоў Зільберквят, Шэпшаль Іцкаў Закгейм, Гірш Мееpaў Заблоцкі, Евель Іцкаў Закгейм, Гірш Вульфаў Зельвянскі, Эля Абрамаў Заклад, Хенька і Шалом Зельдовічы, нашчадкі Моўшы Зеземскага, Іцка Лейбаў і Райкля Лейзераўна Зелікоўскія, Берка Мардухоў

Іцковіч, Ёсель Мендзелеў Ілевіцкі, Янкель Івеніцкі, Янкель і Шлёма Давідавы Ёселевічы, Хацкель Шмуэлеў Ёселеўскі, Моўша Вульфаў Ёхведовіч, Ёсель Моўшаў Ёселевіч, Хацкель Шмуэлеў Ёселеўскі, Шымен Аронаў Капеліёвіч, Зельман Кевес, Давід Крэмень, Сімха Клецкін, Абрам Кадышавіч, Лейзер-Юдэль Лейзераў Клерман, Гірш Хацкелеў Кедэс, Зевель Ёселеў Камянецкі, Берка Менахаў Каплан, Зелька Фішалеў Кулішэўскі, Майрым Канцапольскі, Шалом Янкелеў Куніца, Шалом-Нісон Беркаў Куніца, нашчадкі Кушаля Куніцы, нашчадкі Мордуха Куніцы, Нахемія, Шымель, Эля і Фрэйда Іцкавы Клейны, Шымель Мендзелеў Кузнецкі, Гілер Беркаў Крупеня, Гірш Хаімаў Абрамаў Камянецкі, Шлёма Ёселеў Клецкін, Арон Іцкаў Кадышавіч, Гешаль Аронаў Кроненберг, Абрам Манеў Камянецкі, Абрам Хаімаў Каменамосцкі, Хаім Абрамаў Краўчук, Невах Шлёмаў Каўфман, Мендзель Эліёў Карэліцкі, Шлёма Абрамаў Гдалеў Какошчыцкі, Моўша Юдзелеў Кравецкі, Хаім Шэбшэлеў Косаўскі, нашчадкі Моўшы Сролева Камена-мосцкага, Шлёма Куфман, Рубін Лазараў Клецкін, Лейба Рубінаў Каган, Зельман Камянецкі, Беніямін Манеў і Таўба Каўфманы, Хава Шэвелеўна Куніца, нашчадкі Моўшы Куніцы, Шалом Абрамаў Курхін, Ёвель Лісіцкі, Шлёма Ёселеў Лідоўскі, Іцка Абрамаў Ліхтэр, Іцка Шаломаў Лідскі, Янкель Лабзоўскі, Самуіль Беркаў Ляхавіцкі, Янкель Аўсееў Лемкін, Аўсей Зельманаў Лімон, Абрам Давідаў Леў, Абрам Янкелеў Леў, Берка Шаломаў Любоўскі, Навум Аўсееў Лазінскі, Шымен Мардухоў Лідскі, Мнуха Кушалеўна Лазінская, Рубін Моўшаў Ліфшыц, Моўша-Юдэль Шлёмаў Ліўшыц, нашчадкі Гілера Ліпштэйна, Юдэль Ламенік, Хаім Гіршаў Ляхавіцкі, Абрам Ісераў Лідоўскі, Ісер Абрамаў Лідоўскі, Абрам Шамшэнаў Леў, Моўша Мардухоў Левінштэйн, Шмуэль Янкелеў Мерамінскі, Шахна Юдзелеў Маркус, Фейга-Бейля Монта, Берка Янкелеў Монта, Лейба Шымелеў Маркус, Лейба Юдзелеў Мышкін, Калман Аронаў Мілікоўскі, Мендзель Шоламаў Мілер, Зелік Моўшаў Моўшавіч, Ёсель Ніселеў Машкоўскі, Геня Зельманава Мазіёва, Шлёма Беніямінаў Манікоў, Ліпман Моўшаў, Нахім Хацкелеў Мільканавіцкі, Адалія Ісаакаўна Мінскер, Міхель Мендзелеў Мілер, Шымен Гіршаў Макоўскі, Лейба Эліёў Мерамінскі, Эля Гершаў Мерамінскі, Хаім Макашэўскі, Мендзель Моўшаў Мінскер, Хаім-Лейб Меераў Моўчацкі, Мардух Рубінаў Манусовіч, Ёсель Шыменаў Мірскі, Гірш Лейба Мілакоўскі, Пейсах Зундзелеў Моўчацкі, Зундзель Вельвелеў Моўчацкі, Ашэр Гішаў і Груня Фішалеўна Мельнікі, Ёсель Янкелеў Майзель і Шмуэль Аронаў Раўтгард, Зельда Абрамава Мадзелевіч, Нехама Іцкава Мадзелевіч, нашчадкі Хаіма Сролева Маўшавіцкага, Янкель Беніямінаў Мерамінскі, Юдэль Барухаў Нахімовіч, Зелік Янкелевіч Натковіч, Ёсель Юдзелеў Нахімоўскі, Абрам Ноткавіч, Сімха Новік, Шоша Моўшава Агушэвіч, Моўша Ёселеў Асакоўскі, Гірш Шлёмаў Алейнікоўскі, Давід-Лейб Беркаў Асакоўскі, Юдэль Меераў Аржэхоўскі, Рубін Арыеў Алішэўскі, Арон Гіршаў Алішэўскі, Лейзер Ёселеў Агушэвіч, Моўша Іцкаў Агушэвіч, Моўша Рубінаў Агушэвіч, Шымен Арлінскі, Шалом Шэймаў Агушэвіч, Шымен Сролеў Арлінскі, Гірш Моўшаў Пешкін, Вульф Генахаў Пешкін, Шлёма Борухаў Плотнік, Моўша Борухаў Пякарскі, Лейзер Борухаў Плотнік, Хаім Іцкаў Прымак, Моўша-Ёсель Бенцыэлеў Парэцкі, Пейсах Моўшаў Парэцкі, Абрам Моўша Парэцкі, Хаім Сролеў Палонскі, Насон Зелікаў Пупко, нашчадкі Юдзеля Парэцкага, Гірш Нефтолеў Палонскі, Моўша Лейб Пінхусоўскі, Нафтоль Лейзераў Палонскі, Мардух Гіршаў Памеранец, Лазар Нафтолеў Палонскі, Моўша Лейб Пінхусоўскі, Нафтоль Лейзераў Палонскі, Мардух Гіршаў Памеранец, Лазар Нафтолеў Палонскі, Моўша Генахаў Пешкін, нашчадкі Перца Перкіна, Абрам Айзікаў



# Рэвалюцыйны год

*Працяг, пачатак на ст. 5-7*

Палонскі, Кушаль Шаломаў Пешкін, Шалом Кушалеў Пешкін, Лейзер Моўшаў Парэцкі, Шлёма Шаломаў Плаўскі, Сроль Лейзераў Плашчук, Давід Іцкаў Пешкін, нашчадкі Беніяміна-Вольфа Сролева Перліса, Іцка Шмуелеў Перальштэйн, Шалом Шмуэлеў Ракавіцкі, Мардух Іцкаў Рахмелевіч, Сроль Мендзелеў Ршаоўскі, Рохля Абрамава Рыбацкая, Ёвель-Хаім Беніямінаў Рып, Эля Ёвелеў Рып, Шмуэль Лейзераў Рабіновіч, Мендзель Лейзераў Рабіновіч, Мендзель Лейзераў Рабіновіч, Мардух і Эстэра Рыбацкія, Лейба Ёселеў Ратны, Давід Меераў і Цыпа Рэзнікі, Мардух Эйзераў Рыжын, Ёсель Розенберг, Лейзер Ракавіцкі, Абрам Міхелеў Рэзнікоўскі, Пелта і Моўша Рабіновічы, Лейба Розенберг, Абрам Генцалеў Рэзнік, Янкель Лейбаў Розенберг, Давід Ёселеў Рафаловіч, Шлёма Янкелеў Рабіновіч, Зелік Цалькоў Рыманоўскі, Лейзер Рафалаў Рафалоўскі, Гешаль Карпелеў Рып, Гірш Ёселеў Рубіноўскі, Аншэль Аншэлеў Рахавіцкі, Самуіль Беркаў Рыжын, Берка Моўшаў Саладоўнік, Раша Рэйзля Свяцiцкая, Гірш Юдзелеў Сакалоўскі, Давід Шлёмаў Салавей, Зарух Барух Сакалоўскі, Арон Моўшаў Саладоўнік, Абрам Янкелеў Сакольскі, Арон Абрамаў Сальман, Шлёма Давідаў Скудзіцкі, Давід Скудзіцкі, Евель Мардухоў Страшун, Лейзер Янкелеў Сялецкі, Гірш Іцкаў Самаравіцкі, Даніэль Саперштэйн, Сроль Беркаў Судзельніцкі, Лейба Айзікаў Сідранскі, Іцка Ёселеў Спакойны, Ёсель Абрамаў Свецiцкі, Бенціён Рафалаў



Салавейчык, Шлёма Лейбаў Самсяновіч, Мадэль і Міня Саламянскія, Мендэль Моўшаў Свяціцкі, Іцка Гілераў і Шэйна Янкелеўна Свяціцкія, Гершон Лейбаў Свяціцкі, Шмуэль Нісонаў Собаль, Пінхус Лейбаў Свяціцкі, Гілер Лейбаў Свяціцкі, Вігдар Абрамаў Слонімскі, Хая-Ліна Еўнава Страшун, Мардух Зельманаў Тувянскі, Абрам Ёселеў Тарчынскі, Ёсель Беркаў Тэнцэр, Іцка Янкелеў Талькоўскі, Гдаля Бейнусаў Урыноўскі, Ёсель Урыноўскі, Лейзер-Шахна Футэрман, Іцка Зельманаў Фінкельштэйн, Альперт Іцкаў Файнгольд, Моўша-Эля Хазановіч, Шалом Хамак, Бурда і Хазановіч, нашчадкі Міхеля Хентава, Якаў Мардуховіч Цырынскі, Шмуэль Ніселеў Чарняўскі, Гірш Чапялёўскі, Берка Шлёмаў Чорны, Барух Лейбаў Шабсай, Хаім Юдзелеў Шухатовіч, Мардух Невахаў Штэйнберг, Моўша і Нота Хаімавы Шухатовічы, Шалом Янкелеў Шапіра, Берка Мeeраў Шэрашэўскі, Моўша Іцкаў Шэрашэўскі, Вульф Гершэнаў Шалом, Хаім-Абрам Іцкаў Шмаеўскі, нашчадкі Мардуха Шухатовіча, Эля Зімелеў Школьніковіч, Ёсель Рубінаў Шварцоўскі, Меер Беніямінавіч Шыркоўскі, Берка Шмуэлеў Шумах, Абрам Іцкаў Шэлюбскі, Янкель Мардухоў Шындроўскі, Хаім Моўшаў Шумах, Моўша Давідаў Шухатовіч, нашчадкі Зеліка Давідава Шухатовіча, Зельман Шыцгаль, Ханон Мардуховіч Штэйнберг, Меер Кушалеў Шэвах, Аўсей Вульфаў Шэлькoвіч, Веніямін Абрамаў Шабсай, Еўна Абрамаў Шэлюбскі, Хаім Гілераў Шмаеўскі, Абрам Шлемаў Шэлюбскі, Моўша Ейзековіч Шмукляроўскі, Шмуэль Рахмелеў Шэрашоўскі, Янкель Шмуэлеў Шкловін, Абрам і Міня Шэрашэўскія, Абрам Модэлеў Шамашкін****, Вольф Аўсееў Шэльковіч, Гірш Цалькоў Шылавіцкі, нашчадкі Шмуэля Шапіры, Зэльман Гершэнаў Шыцгаль, Рахмель Шэвелеў Эйдэльштэйн, Шахна Эпштэйн, Шалом Мардухоў Эпштэйн, Іцка Эльковіч, Шая Шмеркоў Эпштэйн, Давід Капелеў Эльяшэвіч, Іцка Абрамаў Эдэльман, Шлёма Міхелеў Эдэль, Лея Эліёўна Юдзелевіч, Янкель Лейбаў Юдкоўскі, Абрам Гіршаў Ярмалоўскі, Янкель Айзікаў Якімоўскі, нашчадкі Абрама Якімоўскага, нашчадкі



Пешы Янкелевіча, Абрам Якімоўскі, Нахум Іцковіч Якімоўскі, нашчадкі Калмана Якімоўскага, Літман Барухаў Алтэр, Эля Моўшаў Авінавіцкі, Шымон Ёселеў Анекштэйн, Тэльда Беркава Айнштэйн, Тодрэс Янкелеў Берман, Хаім Нафтолеў Бурштэйн, Абрам Невахаў Баскір, Абрам Мееpaў Вігдэровіч, Абрам-Меер Эля Мардухоў Вайнштэйн, Двейра Абрамаўна Глушавіцкая, Раша Самуілаўна Гродзенская, Крайна Давідава Давідоўская, Янкель Ёўнавіч Даіён, Нісель Янкелеў Лейзераў Езерскі, Хаім Янкелеў Елецкі, Сора Янкелеўна Заіёнц, Ісаак-Шлёма-Гірш Шымонаў Ізраіліт, Берка Шоламавіч Курхін, Фейга Абрамава Карэліц, Шымон Аронаў Капеліёвіч, Ісаак Моўшаў Куніца, Хаім-Ліпа Рубінаў Кішыцкі, Урыя Ёселеў Зельманаў Любчанскі, Моўша-Ёсель Лейбаў Мілакоўскі, Меер Сролеў Мешэль, Шлёма Гіршаў Рубіноўскі, Эля Ёсель Хаімаў Рып-Розэнцвейг, Вігдар Эліёў Слуцкі, Хана Моўшава Савіцкая, Якаў Міхелеў Хентаў, Гірш Моўшаў Хавін, Давід Сімхаў Цыперштэйн, Бейнас Хемковіч Шмідт, Меер Беркаў Шарашэўскі, Давід Еліёвіч Шапіра, Абель Шахноў Шахнер, Фрыда Хацкелева Шапіра, Ашэр Эфраімаў Эльштэйн, Хаім Іцкаў Эдэльман, Мардко-Шмуэль Ёселеў Гарфінкель.

### Магаметан

Мустафа Сулейманаў Багушэвіч, Айша Аляксандраўна Байрашэўская, нашчадкі Самуіла Байрашэўскага, Хусейн Мустафоў Байрашэўскі, Якаў Сулейманаў Багдановіч, Аляксандр Мустафоў Байрашэўскі, Самуіл Мацвееў Байрашэўскі, Асея Самуілаўна Байрашэўская, Аўрам Аляксандравіч Багушэвіч, Сулейман і Емілія Байрашэўскія, нашчадкі Аляксандра Адамава Байрашэўскага, Аляксандр Халіхаў Мусіч, Аляксандр Давідаў Мухарскі, Аляксандр Мустафаў Мількамановіч, Азіма Мустафаўна Рафаловіч, Разалія Сулейманаўна Радзецкая, Якаў Іваноў Шэгідзевіч, Шаміль Ізмайлаў Шэгідзевіч, Камбер Ізмайлаў Шэгідзевіч, Сафія Якаўлеўна Шэгідзевіч, Самуіль Аўраамаў Шэгідзевіч, Айша Мустафаўна Шэгідзевіч, Лісавета Якаўлеўна Шчэсновіч, Захарый Давідаў Шчэсновіч, Емілія Аляксандаўна Яновіч.



*Гродненскія губернскія вѣдомости, 1905, № 53, 26 ліпеня.*

Працяг у наступным нумары

**Гласны — дэпутат, член думы з рашаючым голасам.*

***У публікацыі відавочна памылкова напісана: Бранцецевич.*

****У арыгінале — Даменік.*

*****Праўдападобна, гэта бацька савецкага генерала Мадэста Абрамавіча Шамашкіна (1895 —1972).*

# У Слоніме друкавалі фальшывыя долары

Каля 20 гадоў таму ад старажыла Бекіра Раманавіча Радэцкага пашчасціла пачуць гісторыю пра фальшываманеточыка-шпіёна, які дзейнічаў у Слоніме ў міжваенны час. Яго ўспаміны намі ўжо пераказваліся ў “СК”.[1] Іх варта пераказаць зноў. Нехта Роўба жыў на Рыбацкай вуліцы ці ў Мокрым завулку (цяпер — вуліца Давідзюк) і нібыта ўваходзіў у нелегальную нямецкую разведвальную сетку, якая дзейнічала ў Польшчы. Кур’еры прывозілі яму ў чамаданах спецыяльную паперу і ён друкаваў на станку фальшывыя польскія банкноты. Правал адбыўся з-за жонкі Роўбы, якая ў касцёле рэгулярна ахвяравала значныя сумы і гэта выклікала падазрэнне. На допытах фальшываманетчык распавёў усё, што ведаў, у тым ліку і пра нелегальную шпіёнскую сетку, быў асуджаны.

Доўгі час намі шукалася пацверджанне гэтай гісторыі. Нарэшце ўдалося знайсці публікацыю ад чэрвеня 1935 года.[2] У ёй згадваецца Раўбо (Роўба, відаць, яго называлі мясцовыя жыхары, беларусы і татары). Высвятляецца, што ён рабіў фальшывыя долары!




KRONIKA SŁONIMSKA

FAŁSZERSTWO BANKNOTÓW DOLAROWYCH

Aresztowano na ulicy Margaretę Ulbrich obywatelkę niemiecką przy której znaleziono paczkę zawierającą 12 buteleczek z różnemi chemikaljami, 4 fałszywe banknoty 1, 5, 20, i 50 do-

Пацвярджаецца версія, што правал адбыўся з-за жанчыны. Спачатку затрымалі нямецкую грамадзянку Маргарэт Ульбрых, у якой пры сабе былі 12 флаконаў з рознымі хімікатамі і 4 фальшывыя банкноты — 1, 5, 20 і 50 долараў. Таксама была і папера для вырабу фальшывых долараў. Ульбрых выдала жыхара Слоніма Антонія Раўбо. Яе ў публікацыі называюць яго “прыяцелькай”. Раўбо пасля арышту Ульбрых знік. Яго знайшлі ў доме сястры і арыштавалі. Дома ў Раўбо адшукалі прыстасаванні для вырабу фальшывак. На допытах абодва затрыманыя ўскладалі ініцыятыву ў фальшываманецтве адзін на аднаго.

У зацемцы няма нічога пра нелегальную нямецкую шпіёнскую сетку. Аднак тое, што была арыштавана нямецкая грамадзянка, ускосна пацвярджае ўспаміны Бекіра Радэцкага. Будзем спадзявацца, што знойдуцца іншыя публікацыі па гучнай справе.

Антоній Раўбо ці Роўба не быў чужым чалавекам у нашым горадзе. На 1905 год нехта Вікенцій Баніфацыевіч Раўба (яшчэ адзін варыянт прозвішча) быў сярод асобаў, якія мелі права ўдзелу ў выбары дэпутатаў (гласных) Слонімскай гарадской думы.[3]

●Сяргей Ёрш

*[1] Ёрш С. Пра слонімскіх фальшываманетчыкаў 1930-х гадоў // Слонімскі край, 2016, № 6. Ліпень. С. 3.*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1935, № 152, 5 чэрвеня.*

*[3] Гродненскія губернскія вѣдомости, 1905, № 53, 26 ліпеня.*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак у № 6-11, 2020 г.*

У Марыі і Валенсія Мікульскіх у Жыровічах нарадзіліся дзеці: Ганна, Валенсій Адам, Эдмунд, Алена, Ядвіга, Леанціна, Ванда і Марыя. У 1930 годзе уладальніцай Жыровічаў стала іх дачка Леанціна Мікульская, па мужу Ельская, другая дачка Ванда выйшла замуж за памешчыка-суседа з Прусоўшчыны Густава Летоўскага. Вялікая сям'я Мікульскіх у 1939 годзе была рэпрэсіравана.


ś. p.

z ORDÓW

Marja Mikulska

Opatrzona ŚŚ. Sakramentami zmarła 29 listopada r. b. w wieku 78 lat.
Pochowana w grobach rodzinnych w maj. Stare Żyrowice pow. Słonimskiego.
O czem zawiadamiają stroskani

Córki, zięciowie, wnuczki i wnukowie

*Паведамленне аб смерці нявесткі Фларэнціна Мікульскага Марыі Орда (Мікульскай). Захоўваецца ў сям'і нашчадкаў Напалеона Орды*

## V. Гаспадарчае апісанне маёнтка Старыя Жыровічы

Маёнтак Старыя Жыровічы складаўся з чатырох фальваркаў: Старых Жыровічаў, Андрэева, Прусоўшчыны, Літвы. Фларэнцін Мікульскі для пашырэння сваёй гаспадаркі браў грашовую пазыку ў Санкт-Пецярбургу. У сувязі з гэтым 1 траўня 1850 года было зроблена інвентарнае апісанне маёнтка Старыя Жыровічы, якое дазваляе нам уявіць, якіх памераў быў палац (мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што ён быў разбураны падчас Першай сусветнай вайны).

Цяжка ўявіць, што 170 гадоў таму ў Старых Жыровічах быў двухпавяровы каменны палац (36,5 на 17,5 метра), завод меднага майстэрства, малатарня, завод па вырабе цэглы, 9 корчмаў, 3 вадзяныя млыны, двухпавярховая вінакурня, хлеў для склада руды, два хлявы для скаціны. Усе пабудовы былі каменныя і крытыя чарапіцай (гэтыя і наступныя звесткі — з Нацыянальнага гістарычнага архіву Беларусі ў г. Гродна). Па рэвізіі 1834 года ў маёнтку Старыя Жыровічы налічвалася рэвізскіх сялянскіх душ: у в. Сценявічы — 54, у в. Русакова — 47, у в. Залессе Загорнае — 52, у в. Залессе — 103, у в. Заверша — 81, у в. Вербалаты — 88, у Калоніі Спашанай Агароднікаў — 27, дваравых сялян — 34. Усяго ў маёнтку Мікульскага жылі 486 прыгонных сялян мужчынскага полу. Зямлі налічвалася 7869 дзесяцін, лесу — 3000 дзесяцін 1600 сажняў. З кожнага двара сяляне выконвалі паншчыны па 3 дні мужчынскай і жаночай, згонаў па 12 дзён у год, вырошчвалі азімыя і яравыя культуры, бульбу, займаліся вырабам хатняга посуду. Маёнтак Старыя Жыровічы прыносіў Мікульскім чыстага гадовага даходу каля 10 000 рублёў срэбрам.

Перад адменай прыгоннага права з 1857-га па 1859 год Цэнтральным статыстычным камітэтам праводзіўся "10 народны перапіс", які меў на мэце ўстанавіць склад насельніцтва і долю ў ім прыгонных сялян. Колькасць насельніцтва маёнтка Старыя Жыровічы была ў той час наступнай: дваравых людзей пры маёнтку — 5 мужчын і 12 жанчын, у в. Вербалаты налічвалася 86 мужчын, 100 жанчын, у в. Заверша — 69 мужчын, 86 жанчын, у в. Залессе — 91 мужчына, 109 жанчын, у в. Загорнае Залессе — 44 мужчыны, 53 жанчыны, у в. Сценявічы —70 мужчын, 75 жанчын, у в. Русакове — 54 мужчыны, 58 жанчын. Усяго ў маёнтку было 912 прыгонных сялян.

Аб абмежаванні зямлі і цяжкім становішчы сялян дае ўяўленне ўрывак скаргі жыровіцкага селяніна ад 1864 года на памешчыка Мікульскага: *"З самых маладых гадоў я нарадзіўся пры двары памешчыка Мікульскага маёнтка Старыя Жыровічы цесляром, якім я увесь час працаваў да 1863 года. Жонка мая з 12 гадоў знаходзілася на агародзе, адведзеным пры вёсцы Залессе памешчыка Мікульскага. У мінулым, у 1862 годзе, калі я прасіў ад Мікульскага, каб ён заплаціў мне за мае працы тую цану, як прынята іншымі памешчыкамі ў ваколіцах, ён не толькі не прыняў маёй просьбы ў павагу,*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак на ст. 11*

*што я і мае бацькі да выдання Найвысокага Маніфеста знаходзіліся ў яго ў прыгоннай залежнасці, пастаянна працавалі за адну толькі вопратку і хлеб, а выцесніў мяне з жонкай і дзецьмі з хаты і адабраў агарод...”.*

За час існавання прыгоннага права ўвесь маёнтак Старыя Жыровічы Фларэнціна Мікульскага налічваў 7869 дзесяцін, частка якіх была аддадзена ў падворнае землекарыстанне прыгонным сялянам шасці вёсак. Памешчык Мікульскі выдзяліў для продажу сваім сялянам 2694 дзесяціны зямлі. Камісія знайшла парушэнні ў надзяленні зямлёй у траіх сялян: Ціхана і Рамана Фідрыхаў, і Андрэя Семчыка. У 1872 годзе ў маёнтку налічвалася 397 парабкаў, 114 сялян-гаспадароў і 8 агароднікаў. Адна дзесяціна зямлі каштавала ў 1872 годзе 72 рублі 80 капеек.

Спіс сялян Стара-Жыровіцкай сельскай грамады, якія выкуплялі зямлю ў Мікульскіх у 1863-1872 гадах:

Вёска Залессе: Раман Лявонаў Русецкі, Восіп Восіпаў Занеўскі, Якаў Якаўлеў Міхальскі, Пракоп Рыгор’еў Міхальчык, Якаў Іванаў Бярэнь, Франц Сямёнаў Бурык, Пётр Ануфрыеў Акулевіч, Сільвестр Фаміч Смаглей, Карней Васільеў Дзярэш, Іван Раманаў Жывулька, Павел Пракоп’еў Бык, Андрэй Сцяпанаў Падрэцкі, Мацвей Мацвеяў Міхальчык, Самуіл Венедыкт Міхальчык, Лукеан Ануфрыевіч Крупнік, Мацвей Рыгор’еў Русецкі, Анісім Антонаў Лазюк, Васіль Ігнацьеў Альшанец, Фёдар Андрэеў Міхальчык, Іван Міркаў Міхальчык, Ігнацій Ціханаў Крупнік, Іван Якаўлеў Пецько.

Парабкі: Рыгор Міхайлаў Русецкі, Самсон Касьянаў Фідрык, Пётр Максімаў Нагула, Даніла Якаўлеў Альшанец.

Вёска Загорнае Залессе: Давід Пракоп’еў Бык, Іван Васільеў Жывулька, Павел Сямёнаў Валюкевіч, Канстанцін Якаўлеў Нагула, Серафім Марцінаў Падрэцкі, Антон Філіпаў Нагула, Амвросій Сцяпанаў Міхальчык, Якаў Васільеў Нагула, Сцяпан Аляксееў Капец, Антон Жывулька.

Вёска Вербалаты: Міхаіл Лук’янаў Лазоўскі, Якаў Іванаў Крупнік, Пётр Іванаў Мароз, Восіп Антонаў Крупнік, Антон Пракоп’еў Крупнік, Раман



*Візіт на радзіму французскіх нашчадкаў беларускага мастака і кампазітара Напалеона Орды Х’юберта Дэнармандзі і яго жонкі Марыі Клер, 2009 год. Фота з іх сямейнага альбома*

Сямёнаў Крупнік, Лявон Андрэеў Казук, Восіп Дзмітрыеў Лазоўскі, Марцін Пракоп’еў Бык, Сямён Філіпаў Фідрык, Ігнацій Васільеў Станкевіч, Павел Антонаў Жывулька, Восіп Дмітрыеў Валюкевіч, Лявон Рыгор’еў Лазоўскі, Карп Пракоп’еў Бык, Максім Нікіцін Бык, Аляксей Ануфрыеў Міхальчык, Лявон Філіпаў Нагула, Мацвей Антонаў Кірык, Марк Пятроў Бык, Міхаіл Дзмітрыеў Валюкевіч, Якаў Пятроў Філёнчык, Гаўрыла Дзмітрыеў Валюкевіч, Сямён Сямёнаў Філёнчык, Сямён Якаўлеў Борыс, Сямён Міхайлаў Крупнік.

Парабкі: Юрый Рыгор’еў Бык, Севасцьян Сцяпанаў Бык, Пётр Васільеў Крупнік.

Агароднікі: Фелікс Гаўрылаў Шульдзін, Антон Гаўрылавіч Шульдзін, Мацвей Якаўлеў Кныш, Пётр Мацвееў Пасюк, Даніла Іванаў Літвін, Восіп Вікенцьеў Дамброўскі, Фларыян Мікалаеў Бузук.

Вёска Заверша: Матвей Іванаў Фідрык, Арсен Антонаў Фідрык, Якаў Андрэеў Сегень, Іван Ануфрыеў Віктоўскі, Пракопій Восіпаў Бык, Нікіфар Венедзіктаў Альшанец, Мірон Восіпаў Жывулька, Сцяпан Міхаіл Альшанец, Фама Рыгорый Борыс, Сцяпан Мікалаеў Фідрык, Павел Сцяпанаў Сірахвень, Сямён Мікалаеў Сушко.

Парабкі: Фама Францаў Фідрык, Юліан Якаўлеў Фідрык, Васілій Кірылаў Фідрык, Ціхан Кірылаў Фідрык, Ігнацій Васільеў Станкевіч, Павел Антонаў Жывулька.

Агароднікі: Фама Гаўрылаў Шульдзін, Антон Гаўрылаў Шульдзін, Мацвей Якаўлеў Кныш, Пётр Мацвееў Пасюк, Даніла Іванаў Ліцвін, Восіп Вікенцьеў Дамброўскі.

●Святлана Брайчук

# Слонімцы-зэгармістры




У ”Рэестры майстроў-зэгармістраў, што працавалі на землях Беларусі (XVI — пачатак XX ст.)”* ёсць і слонімцы. Зэгармістры — гэта гадзіннікавых спраў майстры. Даследчык Анатоль Цітоў знайшоў звесткі пра двух нашых землякоў, якія працавалі ў 1755 годзе. Абодва — слонімскія зэгармістры. Першы — Андрэй Адамскі, другі — Андрэй Радамскі (аднолькавыя імёны і падабенства прозвішчаў можа сведчыць, што гэта быў усё ж адзін чалавек). Яны ўдзельнічалі ў ацэнцы “старасвецкага” зэгарка *“на чорнай шоўкавай тасме з медным ключом, які каштаваў тры чырвоных злотых”*, а таксама старадаўняй шаблі новагародскага войта, што каштавала 70 злотых.

Адшукаліся даныя пра яшчэ двух слонімцаў, якія працавалі ў канцы XIX стагоддзя. Першы — Моўша Пейсахавіч Фрыдман, слонімскі мешчанін, які нарадзіўся каля 1865 года. На сакавік 1895-га ён быў купцом II гільдыі, з’яўляўся кандыдатам на выбарную пасаду старшыні Слонімскага цэха майстроў залатых і гадзіннікавых спраў. Другі — Міхель-Фішэль Хайкелеў (Хайкелевіч) Шпіра, слонімскі мешчанін, у сакавіку 1891-га ён меў 25 гадоў. Таксама з’яўляўся кандыдатам на пасаду старшыні Слонімскага цэха майстроў залатых і гадзіннікавых спраў. І дзякуючы гэтаму яго, як і Фрыдмана, прозвішча захавалася ў дакуменце.

●Генадзь Гурскі

**Цітоў А. Зэгармістры Беларусі. Гадзіннікавых спраў майстры (XVI — пачатак XX ст.). — Мінск, 2017.*

# Доктар медыцыны Франц Пучкоўскі

У першыя дзесяцігоддзі XIX стагоддзя слонімскім павятовым лекарам быў Франц Пучкоўскі (1775 — 1838). Ён — ураджэнец слонімскай зямлі, з шляхты. Скончыў Віленскі ўніверсітэт, доктар медыцыны, хірург (1806), сябра Віленскага медыцынскага таварыства (з 1810-га). Павятовым лекарам у Слоніме працаваў з 1813-га. Кіраваў барацьбой з эпідэміямі не толькі на Слонімшчыне, але і ў суседніх паветах Гродзенскай губерні. Лекар памёр 28 лютага 1838 года.

Пра Франца Пучкоўскага памятаюць у Слоніме. Кароткія звесткі пра яго змешчаны ў гістарычным нарысе аховы здароўя нашага раёна.*

Нядаўна ўдалося знайсці ліст пацыента Пучкоўскага, які апісвае гісторыю свайго лячэння і добрым словам згадвае лекара. Ён быў апублікаваны ў 1817 годзе ў санкт-пецярбуржскай газеце.** Перадрукоўваем гэты ліст у перакладзе на беларускую мову.


РУСКІЙ ИНВАЛИДЪ.

№ 227.

СУББОТА. 29го Сентября 1817.

или

ВОЕННЫЯ ВѢДОМОСТИ.

ВНУТРЕННІЯ ИЗВѢСТІЯ.

Военной Чиновникъ Ѳедоръ Гусевъ.

Городъ Слонимъ, Гродненской Губерніи.

ИНОСТРАННЫЯ ИЗВѢСТІЯ.

АНГЛІЯ.

На 1817 годъ.

227

Выказванне падзякі

(Даслана са Слоніма)

“У 1815 годзе атрымаў я прастудную ліхаманку, якая з-за неадпаведнага лячэння першага майго лекара перайшла ў гарачку з жорсткім удушшам, кашлем, калаццём, боллю страўніка і няспаннем. Нарэшце ў студзені месяцы гэтага года зрабілася ў мяне вадзяная хвароба*** і я быў даведзены да таго, што штохвілінна змагаўся са смерцю. Чуткі пра такі мой стан дайшлі да многіх. Сярод іншых даведаўся пра гэта Слонімскага павета павятовы доктар Франц Сямёнавіч Пучкоўскі, прыходзіць у мой дом і па прыроджаным спачуванні, рашаецца выкарыстаць апошні спосаб да майго збавення. Кожны лічыў мяне загінулым і ніхто не меркаваў, каб выздараўленне маё здзейснілася такім цудоўным чынам пасля двухгадовай знямогі. Але як там не было, мяне пераканалі прыняць лекі. Майстэрскія распараджэнні спадара Пучкоўскага, пахвальнае і бацькоўскае яго абыходжанне з хворым, рэдкае стараннe і вопытнасць яго, пазбавілі мяне ад хваробы за два тыдні. Цяпер я, дзякуючы Усявышняму, карыстаюся дасканалым здароўем. Душэўная падзяка майму збаўцу не мае межаў; але жадаючы выказаць яму слабы знак удзячнасці, рашыўся я прасіць вас, ш[аноўны] п[ане], аб уключэнні артыкула гэтага ў Рускі Інвалід. Дабро не павінна быць таемным. Няхай ведаюць, што ёсць людзі, якія заслугоўваюць дасканалай павагі і здзіўлення”.

Ваенны чыноўнік Фёдар Гусеў

Горад Слонім, Гродзенскай губерні

Падрыхтаваў

●Сяргей Ёрш

*История. Здравоохранение района // http://slncrb.by/o-bolnitse/istoriya-zdravookhranenie-rajona*

***Рускій инвалидъ, или Военныя вѣдомости, 1817, № 227, 29 верасня.*

****Асцыт (“вадзянка жывата”) — ускладненне некаторых захворванняў, пры якім збіраецца вадкасць і пагаршаецца функцыянаванне ўнутраных органаў.*

З АРХІВАЎ

# Драгуны ў Слоніме, канец XVIII стагоддзя

У Расійскай Федэрацыі ў Дзяржаўным гісторыка-мастацкім палацава-паркавым музеі-запаведніку "Гатчына" (Санкт-Пецярбург) захоўваецца архіўная папка са старажытнымі гравюрамі. Яна мае назву *"Калекцыя абмундзіравання расійскай арміі ў праўленне імператара Паўла I"*. На адной з гравюр пазнака: "Маскоўскі драгунскі [полк]. 5 Эскад[рон]. У Слоніме". Невядомы мастак намаляваў двух драгун у цёмна-зялёных мундзірах з ружовымі каўнерамі, у чорных капелюшах і ботах, са зброяй. Над імі — выява штандарта.

Рэарганізацыя згаданага палка адносіцца да пачатку праўлення Паўла I — да канца 1796 года. Менавіта тады ў яго складзе быў сфармаваны пяты эскадрон. Пасля гэтай даты і была створана гравюра. Такіх драгун з Расіі можна было пабачыць у Слоніме.

●Генадзь Гурскі



*Гравюра са збораў Дзяржаўнага гісторыка-мастацкага палацава-паркавага музея-запаведніка "Гатчына"*

# Як паліцыя палявала на сцяг



У красавіку 1932 года адбылося здарэнне ў пасажырскім хуткім цягніку Парыж — Варшава — Стоўбцы. Ён праязджаў у раёне Ваўкавыску, калі польскі генерал-кавалерыст, адзін з пасажыраў, заўважыў, што дзяўчынка махала з акна вагона чырвоным сцягам. На вачах польскага сілавіка адбылося "злачынства": Бальшавіцкі сцяг! Дэманстрацыя! Генерал кінуўся ў купэ, у якім магла ехаць дзяўчынка, але ў акне нікога не было, а замежнікі, якія там аказаліся, рабілі выгляд, што нічога не разумеюць.

Кавалерыст не супакоіўся — вельмі ж хацелася выкрыць "нахабную бальшавічку". Калі цягнік спыніўся ў Слоніме, генерал паведаміў пра здарэнне ў паліцыю. У цягніку быў праведзены ператрус, затрымалі шэсць чалавек. Высветлілася, што дзяўчынка-"дэманстрантка" — замежная грамадзянка, ехала са сваякамі ў Маскву. Чырвонага сцягу пры ёй не было. Цягнік з Парыжа рушыў далей са Слоніма з затрымкай на гадзіну.

Пазней каля чыгункі паміж Слонімам і Альбярцінам знайшлі нейкія камуністычныя паперы. Паліцыя вырашыла, што пасажыры, калі заўважылі актыўнасць польскага генерала, цішком выкінулі ў акно "кампрамат". Відаць, туды ж паляцеў і сцяг. Праўда, яго знайсці не ўдалося.

СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Сцяпан Міско з Чамяроў

У канцы 1939 года ў мінскай газеце *"Советская Белоруссия"* (№302 (3470) ад 31 снежня) з'явілася зацемка пра 9-гадовага Сцяпана Міско з Чамяроў і іншых школьнікаў. У раённым Доме культуры быў прагляд мастацкай самадзейнасці вёскі. Хлопцы і дзяўчаты спявалі, чыталі вершы, паказалі ўрывак з п'есы "Бацькаўшчына". Маленькі Сцяпан чытаў верш. У будучыні ён стане мастацтвазнаўцам, супрацоўнікам Акадэміі навук савецкай Беларусі. А яшчэ слонімец быў дысідэнтам: у 1970-я за беларушчыну яго звольнілі з працы, цягалі на допыты.

Сёлета Сцяпану Міско споўнілася б 90. Але ўжо дзесяць гадоў яго няма сярод нас.

Скан публікацыі ў рэдакцыю даслаў наш чытач Яўген Барышнікаў.



**Просмотр художественной самодеятельности в Слониме**

СЛОНИМ. В слонимском народном Доме культуры состоялся просмотр художественной самодеятельности деревни Чамеры. Крестьянская молодежь деревни с радостью пела белорусские песни, которые раньше были запрещены.

Драматический кружок показал отрывок из пьесы «Бацькаўшчына». Детский хор исполнил марш из кинофильма «Веселые ребята» и белорусскую народную песню «Ці ўсе лугі пакошаны». Ученики Степан Миско, Ваня Бурсевич, Маня Тиханчук и другие прочитали стихотворения.

Коллективом художественной самодеятельности, который насчитывает 52 человека, руководит крестьянка Елена Миско.

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# У далёкім Харбіне



Сёлета Дзяржаўны архіў Хабараўскага краю Расіі на сваім сайце апублікаваў біяграмы эмігрантаў з Расійскай імперыі ў Манчжурыі ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Сярод іх знайшліся двое слонімцаў, якіх запісалі "рускімі".

Марыя Данілаўна Кузякіна нарадзілася ў Слоніме 7 лютага 1896 года. Скончыла 7 класаў гімназіі. Жыла з сям'ёй у Бабруйску, там узяла шлюб з Аляксандрам Абросімавым. У студзені 1913-га яны прыехалі ў Манчжурыю. Нарадзіліся двое сыноў — Вадзім (1913 г.н.) і Ігар (1915 г. н.). Што здарылася з першым мужам, невядома. Другі шлюб Марыя Данілаўна ўзяла з Васілём Мацвеевым, які быў яе старэйшы на сем гадоў.

У кароткай даведцы ад 1934 года адзначаецца, што Мацвеева

*Працяг на ст. 17*

# Мешчанін-контрразведчык



У пачатку 1880-х гадоў у Слоніме нарадзіўся Канстанцін Ксавер'евіч Сідаровіч, мешчанін. Дзе ён вучыўся, невядома. У 1900 годзе слонімца прызвалі на вайсковую службу ў рускую армію. Ён трапіў у Кранштат на Балтыку, служыў пры штабе марскога порта. Калі ў 1903-м скончыўся тэрмін службы, Сідаровіч застаўся на звыштэрміновую службу ў якасці пісара штаба порта.

Падчас Першай сусветнай вайны слонімскі мешчанін служыў на Марской тэлефоннай станцыі ў Кранштаце. Са снежня 1915 года Канстанцін Сідаровіч быў таемным супрацоўнікам Кранштацкага жандарскага ўпраўлення, меў мянушку *"Костров"*. Пра яго дзейнасць пішуць коратка: *"Расследаваў шпіянаж"*. За контрразведвальную працу сваю Сідаровіч атрымліваў 10 рублёў штомесяц.

У спісе сакрэтных супрацоўнікаў, асведамляльнікаў і філёраў, якія працавалі ў Кранштаце і на Балтыцы ў 1911-1917 гг., паведамляецца, што Канстанцін Сідаровіч быў арыштаваны ў 1917 годзе.* Абставіны арышту і далейшы лёс слонімца невядомыя.

●Генадзь Гурскі

**Хутарев-Гарнишевский В. Призраки измены. Русские спецслужбы на Балтике в воспоминаниях подполковника В. В. Владимирова, 1910–1917 гг.: Сборник воспоминаний и документов. — Москва, 2019.*

# У далёкім Харбіне

— манархістка па палітычных перакананнях. Пры гэтым яна мела падданства СССР. Далейшы лёс невядомы.

Іван Ігнатавіч Бішкірэвіч (Бішкерэвіч) нарадзіўся ў Мільканавічах 9 кастрычніка 1880 года ў сялянскай сям'і. У сваёй вёсцы ў 1894-м ён скончыў народную вучэльню. У 1902 годзе Бішкірэвіча прызвалі ў рускае войска і ў канцы снежня ён трапіў у далёкую Манчжурыю. У 1904-м слонімец скончыў фельдшарскую ротную школу. Ён так і застаўся ў Манчжурыі. У 1918-1922 гадах Іван Бішкірэвіч вучыўся ў фельдшарска-акушэрскай школе ў Харбіне. У яго была прыватная медыцынская практыка, ён уваходзіў у некалькі прафесійных арганізацый эмігрантаў. На 1934 год Бішкірэвіч быў жанаты на Параскеве Фёдараўне Панамаровай, мяшчанцы з Чалябінска, якая была на дзевяць гадоў малодшая за яго і з якой сустрэўся на чужыне (яна прыехала ў Манчжурыю ў 1906-м). У картцы слонімца ў графе "падданства" напісана "эмігрант", а ў графе "палітычныя перакананні" — "па-за палітыкай". Яго далейшы лёс невядомы.

●Генадзь Гурскі

**https://gahk.ru/projects/brem/*

УСПАМІНЫ

# На ўздыме

*1912-1919 гады ў Слонімскім раёне Заходняй Беларусі*

*Працяг, пачатак у №9-11, 2020 г.*



Але гэты сход быў першым і да рэвалюцыі ў Германіі — апошнім, бо пасля зрыву Брэсцкіх перамоваў і заняцця немцамі ўсёй Усходняй Беларусі, Украіны і Прыбалтыйскага краю зноў пачаліся старыя парадкі, а пераслед і дбайнасць нямецкіх уладаў яшчэ павялічылася. Пасля заняцця немцамі другой часткі Беларусі і Украіны, у Заходнюю Беларусь пачалі вяртацца групы салдат былой царскай арміі, якія пры той шпаркасці нямецкага наступлення затрымаліся на зноў акупаваных краінах. Гэтая маса ўнесла значнае ажыўленне ў рэвалюцыйны рух у раёне і асабліва ў вёсках. Шмат хто з іх, трапляючы ў горад, праяўлялі вельмі часта зайздросную настойлівасць, каб даведацца, дзе знаходзіцца бальшавіцкая арганізацыя (тады яшчэ левая група), гэтым таварышам даваліся розныя заданні і праз іх устанаўлівалася паступова неабходная сувязь з вёскай. З узмацненнем жа сувязі з вёскай нарадзілася настойлівая думка склікаць падпольны павятовы з'езд саветаў. Неадкладна ўзяліся за падрыхтоўку. Але ў хуткім часе рэвалюцыя ў Германіі паставіла перад намі шэраг іншых, не менш важных задач.

Справа ў тым, што ўся праца да кастрычніка 1918 года праходзіла пад сцягам левай групы. Трэба было хутчэй спяшыць з афармленнем самастойнай бальшавіцкай арганізацыі. У лістападзе месяцы такая ячэйка была аформлена ў складзе толькі пяці чалавек, а 6 снежня ў адным з закінутых дамоў на ўскраіне горада, у памяшканні былой кашары* быў праведзены першы сход рабочых, якія спачувалі бальшавікам. На ім падалі заявы аб уступленні ў арганізацыю 35 чалавек. Праз некалькі дзён выбраны на гэтым сходзе партыйны камітэт устанавіў сувязь з іншымі партыйнымі ячэйкамі ў раёне (м[ястэч]ка Ружаны і Дзятлава**), а таксама звязаўся з Менскам.

9 снежня [1918-га] адчыніўся падрыхтаваны з вялікімі цяжкасцямі з'езд саветаў. Дэлегатаў на ім прысутнічала 36 чалавек: 27 дэлегатаў ад сельскіх раёнаў, 5 чалавек — ініцыятыўная група па скліканні з'езду, якая атрымала на ім права пастаноўчага голасу, і 4 дэлегаты ад гарадскога савета. Адчыненне з'езду адбывалася ў легальных умовах, бо праз нямецкі савет салдацкіх дэпутатаў удалося выклапатаць дазвол на скліканне нарады прадстаўнікоў горада і вёсак для вырашэння шэрагу зямельных і іншых гаспадарчых пытанняў. Адчыненне было ўрачыстае з

удзелам значнай масы рабочых, але пад наглядам прадстаўнікоў нямецкай улады. Пасля сканчэння гэтага ўрачыстага сходу было абвешчана, што з заўтрашняга дня прыступяць да працы паасобныя камісіі па выпрацоўцы практычных прапаноў па пытаннях, пастаўленых на парадак дня. І фактычна з наступнага дня ў адным з малых пакояў Народнага дома з'езд, пазбавіўшыся такім парадкам ад нагляду прадстаўнікоў нямецкай улады, прыступіў да свае працы. У асноўным былі прапрацаваны пытанні арганізацыі ўлады на месцах, падзелу і скарыстання абшарніцкіх земляў, здабычы зброі і ўзбраення рэвалюцыйнай часткі вёскі.

Да канца працы з'езду з'явіліся чатыры дэлегаты гарадскога савета, якія не пажадалі спачатку прымаць удзел у працы з'езду. Справа ў тым, што гарадскі савет, які ўтварыўся ў першыя дні рэвалюцыі ў Германіі, і выбраны выключна галасамі рабочых саматужнай прамысловасці, служачых і настаўнікаў, у сваёй велізарнай большасці з'яўляўся меншавіцкім. Таму кіраўнікі гарадскога савета былі вельмі незадаволены тым, што левая група праз іх галаву склікала павятовы з'езд саветаў. Яны спачатку не верылі, што маленькая група здолее на працягу вельмі кароткага часу ахапіць амаль увесь павет, дабіцца абрання дэлегатаў у большасці валасных пунктаў і сабраць гэтых дэлегатаў у павятовым цэнтры. Таму адчыненне з'езду ім звалілася, як снег на галаву.

Дэлегацыя гарсавета, якая з'явілася на чале з двума кіраўнікамі бундаўскай арганізацыі (Закіным і Валіцкім), звярнулася да з'езду з заявай, што гарсавет не прызнае за з'ездам тых паўнамоцтваў, якія ён бярэ на сябе, бо з'езд скліканы па ініцыятыве самазванай групы, нікім на тое не ўпаўнаважанай і што толькі гарсавет меў права падрыхтаваць і склікаць павятовы з'езд саветаў. Яны атрымалі безадкладны і рашучы адпор з боку ўсіх дэлегатаў з'езду. Ім прапанавана было не перашкаджаць, не зрываць нармальную працу з'езду лішнімі дэкларацыямі і калі яны хочуць, то могуць застацца і прымаць удзел у яго працы нараўне з усімі дэлегатамі. Трое з іх засталіся, прымалі ўдзел у галасаванні амаль па ўсіх пытаннях, і ў тым ліку ў выбарах выканаўчага камітэту. Двое з гэтай дэлегацыі (рабочыя) ўжо на наступны дзень афіцыйна заявілі пра свой выхад з Бунду і далучэнні да бальшавікоў. У выканкам, абраны з'ездам, увайшло 9 чалавек: 6 камуністаў-бальшавікоў, адзін максімаліст, 1 анархіст-камуніст і 1 левы поалей-сіяніст.

## Савецкая ўлада ў раёне і барацьба з белапалякамі

Выканаўчаму камітэту, як выбарнаму органу ўлады, давялося працаваць не больш 3 тыдняў. Заняцце Менску чырвонымі войскамі і



набліжэнне чырвоных атрадаў да Баранавічаў паставілі перад бальшавіцкай арганізацыяй, а таксама перад выканаўчым камітэтам задачу стварэння больш гнуткага Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, які па-баявому арганізаваў бы ахову раёна ад адступаючай нямецкай арміі і ад спробаў захопу раёну польскімі атрадамі (яны прыходзілі [з захаду] на змену адступаючаму нямецкаму войску). Выканаўчы камітэт на адным з сваіх пасяджэнняў вылучыў са свайго складу Ваенна-рэвалюцыйны камітэт і тым самым спыніў сваю дзейнасць.

Важнейшай задачай ваеннага рэўкаму было стварэнне вялікага баявога атраду і загатоўка неабходнай зброі для яго. Патрэбныя сродкі на гэтую справу былі атрыманы ад групы таварышаў, якія прыехалі з Менску. Праца закіпела. Аўтар гэтых радкоў, як член рэўкаму, вылучаны для гэтай працы, скарыстаў ранейшую практыку і старыя сувязі для правядзення закупкі зброі, дабіўся таго, што ў вельмі кароткі тэрмін тры пункты аказаліся заваленыя вінтоўкамі, бомбамі і тэлефоннымі апаратамі. На працягу дзесяці дзён атрад, больш як у сто чалавек, быў узброены і прыведзены ў поўную гатоўнасць. У атрады ўваходзіла група гарадскіх рабочых і сяляне ваколічных вёсак, якія нядаўна прыбылі ў родныя месцы з Савецкай Расіі.***

●Якуб Куніца

Працяг у наступным нумары

**Казармы.*

***Аўтар успамінаў памылкова напісаў "Дзятлавічы".*

****Слонімцы, якія ў 1915 годзе выехалі ў бежанства ці служылі ў рускім войску.*

# 150 гадоў з дня нараджэння Язэпа Стаброўскага



2 лістапада споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння нашага славутага земляка, археолага і краязнаўцы, заснавальніка слонімскага музея Язэпа Стаброўскага.

*Фота: racyja.com*

# Памятная дошка на Парэцкай царкве

17 кастрычніка ў вёсцы Парэчча на праваслаўнай царкве ўсталявалі дошку ў памяць пра святара і педагога Аляксандра Гарачку. Яшчэ адно сведчанне, што добрыя справы не забываюцца нашчадкамі.

ХРОНІКА

# Народны музей



Краязнаўчы музей “Дыяменты даўніны” ў сярэдняй школе ў Новадзявяткавічах атрымаў званне народнага. Адпаведнае рашэнне прыняло Міністэрства культуры Беларусі. Музей існуе ўжо 14 гадоў, створаны настаўнікамі і краязнаўцамі Васілём і Таццянай Ракуць.

# Перапахаванне ў Задвор’і




27 кастрычніка на могілках у Задвор’е перапахавалі астанкі 17 чалавек (вайскоўцаў і мірных жыхароў), якія загінулі падчас вайны. Як піша eparhia.by, устанавіць удалося толькі даныя сяржанта Міхаіла Львова. На перапахаванні былі прадстаўнікі ўладаў, святар, вайскоўцы, школьнікі і настаўнікі.

“Слонімскі край” — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com